Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

6 верасня 2019 года №36 (1271)

18+



ISSN 1991–7155

9 771991 715006 19036



# Як звярнуцца па дапамогу ахвяры дамашняга гвалту



старонкі 20-21

Фота psychologies.ro.

Ахвяры дамашняга гвалту могуць звярнуцца ў Маладзечанскі цэнтр сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва на гарачую лінію **(8-0176) 77-73-13.**

Можна таксама пазваніць з любога кутка Беларусі на агульнанацыянальную гарачую лінію для пацярпелых ад дамашняга гвалту **(8-801) 100-8-801.** Званок бясплатны. Лінія працуе штодзённа ад 8 да 20 гадзін. Задача агульнанацыянальнай лініі – даць эмацыйную і юрыдычную падтрымку. Дапамога ад лініі бясплатная і ананімная.

Таксама кругласутачна можна звярнуцца па тэлефоне экстраннай дапамогі, каб вас размясцілі ў прытулку «Радзіслава». Ён працуе для жанчын і дзяцей, пацярпелых ад гвалту.

## У Івянцы пабудуюць новы садок

ВАЛОЖЫН

Работы пачалі ўжо сёлета. Установу пабудуюць па інвестыцыйнай праграме. Усяго па Мінскай вобласці на сёння патрабуецца 4800 месцаў у садках.

Па гэтай жа праграме з'явяцца садкі ў Калодзішчах, Смалявічах і Чэрвені.

**Паводле mvradio.by.**

## Літва зацікаўленая ў спрашчэнні візавага рэжыму паміж ЕС і Беларуссю

Міністр замежных спраў Літвы **Лінас Лінкявічус** і новы пасол Беларусі ў Вільні **Валеры Бараноўскі** падчас уручэння даверных грамат абмеркавалі пытанні бяспекі Астравецкай АЭС і сітуацыю з правамі чалавека ў нашай краіне.

Лінкявічус падкрэсліў неабходнасць супрацоўніцтва Беларусі з міжнароднымі экспертамі і выканання рэкамендацый ЕС па стрэс-тэстах і ліквідацыі іншых праблем бяспекі да запуску электрастанцыі. «Ядзерная бяспека і праблема Астравецкай АЭС з'яўляюцца аднымі з галоўных пытанняў нашага двухбаковага і міжнароднага парадку дня Літвы», – сказаў міністр.

«Літва і Беларусь – суседзі, і для нас важныя ўсе пытанні. Як і раней, мы будзем прагматычнымі і падтрымаем тыя праекты або ініцыятывы, якія прынясуць карысць як ЕС, так і нашым двухбаковым адносінам», – дадаў Лінкявічус.

Міністр падкрэсліў, што Літва зацікаўленая ў павелічэнні колькасці турыстаў з Беларусі і ў спрашчэнні візавага рэжыму паміж Еўрапейскім саюзам і Беларуссю.

**Паводле delfi.lt.**

## У Маладзечне – новы намеснік старшыні райвыканкама

МАЛАДЗЕЧНА

Гэта **Святлана Уладзіміраўна Валько**. Яна будзе адказваць за пытанні архітэктуры, будаўніцтва, добраўпарадкавання і ЖКГ.

Святлана Валько скончыла Беларускую політэхнічную акадэмію (цяпер БНТУ) і прайшла перападрыхтоўку ў Акадэміі пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь, паведамляюць у выканкаме. Працавала ў будаўнічай галіне.

**Аддзел інфармацыі.**

## Міністэрства адукацыі: пераходзім на абавязковыя 11 класаў

У Беларусі ўвядуць усеагульную сярэднюю адукацыю. Пра гэта паведаміў міністр **Ігар Карпенка**.

Па яго словах, такая норма ўтрымліваецца ў новай рэдакцыі Кодэкса аб адукацыі. Дакумент павінны будзе разглядзець новы парламент.

«Мы ў кодэкс заклалі норму аб абавязковасці агульнай сярэдняй адукацыі. Цяпер у нас базавая адукацыя, гэта значыць, 9 класаў абавязковыя. А мы пераходзім на ўсеагульную сярэднюю адукацыю, 11 класаў абавязковыя.

І гэта, вядома ж, цягне за сабой комплекс тых мер, якія будзе прымаць дзяржава для таго, каб малады чалавек меў магчымасць сацыялізацыі сродкамі адукацыі для выхаду ў самастойнае жыццё, у працоўную дзейнасць», – сказаў Карпенка.

Пераход на ўсеагульную сярэднюю адукацыю абмяркоўваецца ў краіне восем ужо два гады. У 2017 годзе міністр заявіў, што сістэма адукацыі фактычна гатовая да такога пераходу. У краіне выбудаваная дакладная сістэма, у рамках якой грамадзяне могуць атрымліваць агульную сярэднюю адукацыю: «праз сістэму школ, гімназій, ліцэяў, праз прафесійна-тэхнічную і сярэднюю спецыяльную адукацыю», удакладніў Ігар Карпенка.

**Паводле tut.by.**

## Ладзяць кірмаш

ВАЛОЖЫН

7 верасня на тэрыторыі Валожынскай дзіцяча-юнацкай спартыўнай школы ладзяць кірмаш выхаднога дня.

Удзельнічаюць арганізацыі гандлю і грамадскага харчавання, прамысловай вытворчасці, бытавога абслугоўвання, фермерскіх гаспадарак раёна.

**Аддзел інфармацыі.**

## Падымуць мінімалку

Ад 1 студзеня ў Беларусі падымуць мінімальную зарплату, паведамляюць у прэс-службе ўрада. Ад новага года яна складзе 375 рублёў. Цяпер мінімальны заробак 330 рублёў.

Мінімальная заработная плата – гэта самы нізкі дапушчальны памер аплаты працы для ўсіх без выключэння сфер дзейнасці. Працэй кажучы, менш плаціць работніку нельга, калі ён працуе на поўную стаўку і выконвае нарматыўны аб'ём работ.

**Паводле tut.by.**



На могілках у Вілейцы.

Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

# Платны заезд на могілкі Вілейшчыны вырашылі пакінуць

## Пра што гутарылі на чарговай сесіі Савета дэпутатаў

ВІЛЕЙКА

**У канцы жніўня Вілейскі раённы Савет дэпутатаў зладзіў чарговую сесію. Мерапрыемства было выязным і адбывалася ў Ілы.**

Сярод пытанняў, што разглядзелі дэпутаты, быў платны заезд на могілкі Вілейшчыны.

28 чэрвеня Вілейскі райвыканкам прыняў рашэнне №738 «Аб арганізацыі дзейнасці, звязанай з пахаваннем памерлых».

У дакуменце ёсць такія словы: «Надзяліць правам Вілейскае ЖКГ браць аплату за ўезд на тэрыторыю могілак, што знаходзяцца на балансе прадпрыемства».

Згодна з дакументам, плаціць трэба за легкавыя машыны, на якіх людзі прыехалі наведаць памерлых, – 2 рублі 55 капеек. А прадпрымальнікам, якія працуюць па добраўпарадкаванні могілак, – 51 рубель.

**За атрыманыя грошы ЖКГ будзе добраўпарадкаваць і ўтрымліваць могілкі.**

З прапановай перагледзець і адмяніць дадзенае рашэнне ў Савет дэпутатаў звярнуўся жыхар Вілейкі **Іосіф Мацюн**.

Як сказаў на сесіі старшыня Вілейскага райвыканкама **Алег Бегунец**, рашэнне браць аплату за заезд на могілкі прынялі для таго, каб захоўваць тут парадак. Па яго словах, пасля добраўпарадкавання месцаў пахавання рабочыя часта пакідаюць шмат смецця: рэшткі старых помнікаў і надмагілляў, іншыя непатрэбныя будматэрыялы.

Прыбіраць усё гэта мусяць работнікі ЖКГ. І прадпрыемства нясе выдаткі. Пазіцыю ЖКГ выказала намеснік кіраўніка прадпрыемства **Марыя Андрыеўская**.

**Большасць дэпутатаў прагаласавала за тое, каб пакінуць плату за заезд на могілкі.**

Мы пагутарылі з прадпрымальнікамі, якія займаюцца добраўпарадкаваннем могілак у рэгіёне.

**Па іх словах, пакуль яны плацяць за ўезд на могілкі толькі на Вілейшчыне.**

Па адным чэку даваляюць заехаць на могілкі некалькі разоў. Звычайна, пакуль не добраўпарадкуеш магілу. У іншых гарадах рэгіёна, дзе працуюць рабочыя, аплату з іх не бяруць.

**Аддзел інфармацыі.**

## У Асаўцы адкрылі помнік ахвярам Другой сусветнай

МАЛАДЗЕЧНА

**31 жніўня, напярэдадні 80-годдзя пачатку Другой сусветнай вайны, у Асаўцы на Маладзечаншчыне адкрылі помнік ахвярам гэтай вайны.**

Мемарыяльную канструкцыю зрабілі на грамадскія сродкі. Арганізатарамі і каардынатарамі праекта выступілі мясцовыя грамадскія актывісты: аўтар гэтых радкоў **Алесь Ратkевіч**, **Васіль Казакевіч** і **Яўген Тумель**.

Нашу справу падтрымала раённая арганізацыя «Беларускі фонд міру», Чысцінскі сельвыканкам.

У адкрыцці паўдзельнічалі работнікі сельвыканкама з Чысці, школа, жыхары Асаўца, Чысці і вёскі Чарты. Былі госці з Маладзечна і Вілейшчыны, прадстаўнікі праўлення раённай арганізацыі «Беларускі фонд міру» і Саюза беларускіх пісьменнікаў.

Помнік асвяціў ксёндз **Павел Шылак** з Краснага. Чысцінскі Дом культуры выступіў з канцэртам.

Ад імя арганізатараў праекта я ўдзячны ўсім, хто падтрымаў гэту справу. Нехта дапамог матэрыяльна, нехта – сваёй працай. Маральная падтрымка таксама мела важнае значэнне.

Дзякуй жыхарам Асаўца, Чысці, Маладзечна: **Радзевічам**, **Рафальскім**, **Лагвянцам**, **Дзенісенкам**, **Вішнеўскім**, **Філіповічам**, **Янушкевічам**. Дзякуй майстру **Генадзю Шурпіку** і мастаку **Алесю Квяткоўскаму**, ксяндзу Паўлу.

Асабліва мы ўдзячныя **Мамаям** з Маладзечна, якія вельмі дапамаглі грашыма, і мясцовым прадпрымальнікам **Глаўдзелю**, **Марозу**, **Грабяньку**, **Малашэвіч**, **Рыжанкову** і Чысцінскай ЖКГ.

На дошцы ў Асаўцы – 48 імёнаў загінулых падчас Другой сусветнай.

**Алесь РАТКЕВІЧ, краязнаўца, Чысць.**




Фота onliner.by.

У адной з крам, дзе вопратка прадаецца па нізкіх цэнах.

# Дзяржнагляд праверыў крамы нізкіх цэнаў

ВІЛЕЙКА

**Спецыялісты Дзяржнагляду праверылі крамы нізкіх цэнаў у Вілейцы і знайшлі парушэнні.**

Абарона жыцця і здароўя людзей – адна з найважнейшых мэт працы інспекцыі Дзяржстандарту. А яшчэ – папярэджанне дзеянняў прадаўцоў, якія падманваюць пакупнікоў, хаваючы сапраўдную якасць сваёй прадукцыі.

Таму спецыялісты інспекцыі правяраюць, як у крамах выконваюць патрабаванні тэхнічных рэгламентаў Мытнага саюза і іншых тэхнічных нарматыўных прававых актаў.

### Знайшлі парушэнні ў крамах двух вілейскіх прадпрымальнікаў

Падчас праверкі ўвагу надавалі харчовай і электратэхнічнай імпартнай прадукцыі, таварам лёгкай прамысловасці для дзяцей і падлеткаў, асабліва вырабам, якія пастаўляюць з Сярэдняй Азіі па нізкіх цэнах.

На працягу гэтага года правяралі, ці па правілах рэалізуюць тавары па нізкіх цэнах у двух крамах індывідуальных прадпрымальнікаў у Вілейцы:

– у краме «Зручная», прадпрымальнік Новік Ю.Г .;

– у краме «Усе сезоны», прадпрымальнік Шпакоўская Т.І.

Спецыялісты Дзяржнагляду заўважылі наступныя парушэнні:

**– па маркіроўцы: не было зусім ніякай інфармацыі або адсутнічала назва і юрыдычны адрас вытворцы, дата вырабу, склад, сімвалы па доглядзе.**

### Што парушалі

Калі ў маркіроўцы няма знака ЕАС, значыць, прадукцыя не праходзіла працэдуру пацвярджэння адпаведнасці. Гэта павінна насцярожыць пакупніка. Ці варта рызыкаваць здароўем, кіруючыся толькі цаной?

Адсутнічалі дадзеныя аб пацвярджэнні адпаведнасці;

Бяспеку. У камплекце для нованароджаных (распашонка, паўзункі, бодзі, шкарпэткі) узбекскай вытворчасці швы выкананыя ўнутры вырабаў, а павінны быць звонку (ІП Новік Ю.Г). У дзіцячых басаножках з невядомай краіны памераў 21-22 двух найменняў заўважылі адкрытую пятку. А гэта не дапускаецца.

**Узбекскі касцюм для дзіцяці да года выраблены з выкарыстаннем палімерных нітак. А павінны быць з натуральных (ІП Шпакоўская Т.І.).**

### Танны тавар – не заўсёды якасны

Пасля праверак спецыялісты Дзяржнагляду забаранілі прадаваць пэўныя партыі прадукцыі. Гаспадарам рэкамендавалі ліквідаваць парушэнні. Ужылі меры адміністрацыйнай адказнасці.

**Калі вы купляеце рэч, неабходна ўважліва вывучыць маркіроўку прадукцыі: звярнуць увагу на вытворцу, склад, тэрміны прыдатнасці.**

Вы маеце права запатрабаваць у прадаўца дакументы, якія пацвярджаюць якасць і бяспеку тавару (сертыфікат, дэкларацыю аб адпаведнасці).

**Калі такія дакументы ёсць, гэта гарантыя якасці і бяспекі прадукцыі.**

Будзьце асабліва ўважлівыя пры набыцці імпартных тавараў на выставах, кірмашах, па-за гандлёвым аб'ектам. Памятайце, што танны тавар не заўсёды можа быць якасным. Аддавайце перавагу правераным вытворцам.

**Таісія ПЯТРОВА,**
**начальнік аддзела Дзяржаўнага нагляду за тэхнічнымі рэгламентамі і стандартамі і Дзяржаўнага метралагічнага нагляду, Маладзечна.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 29.08 | 5.09 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.0797 | 2.1161 |
| Еўра | 2.3016 | 2.3271 |
| Злоты, 10 | 5.2598 | 5.3770 |
| Расійскі рубель, 100 | 3.1234 | 3.1845 |
| Грыўня, 100 | 8.2467 | 8.3698 |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | 28.08 | 4.09 |
| Еўра | 2.2800/2.3100 | 2.3050/2.3370 |
| Долар ЗША | 2.0600/2.0800 | 2.1070/2.1250 |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | 28.08 | 4.09 |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 19,39 | 19,80 |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 4,20 | 3,98 |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 7,93 | 7,37 |
| Свініна (выразка), 1 кг | 10,00 | 10,00 |
| Карп жывы, 1 кг | – | 4,95 |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 5,80 | 5,80 |
| Селядзец, 1 кг | 5,50 | 5,50 |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 15,60 | 15,60 |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,45 | 1,45 |
| Рыс, 0,8 кг | 1,60 | 1,85 |
| Алей, 1 л | 3,00 | 3,00 |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | 4,80 |
| Маянэз, 400 г | 1,45 | 2,20 |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,40 | 1,40 |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,80 | 1,80 |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,50 | 1,60 |
| Агуркі, 1 кг | 1,50 | 1,50 |
| Баклажаны, 1 кг | 1,95 | 1,80 |
| Бульба, 1 кг | 0,50 | 0,70 |
| Буракі, 1 кг | 0,70 | 0,70 |
| Кабачок, 1 кг | 0,50 | 1,00 |
| Капуста, 1 кг | 0,80 | 0,80 |
| Морква, 1 кг | 0,90 | 0,80 |
| Лісічкі, 500 мл | 1,50 | 1,50 |
| Памідоры, 1 кг | 1,00 | 0,75 |
| Перац, 1 кг | 1,40 | 1,20 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,90 | 0,90 |
| Часнок, 1 кг | 4,90 | 5,50 |
| Шампіньёны, 1 кг | 5,90 | 3,50 |
| Апельсіны, 1 кг | 3,00 | 3,30 |
| Бананы, 1 кг | 2,50 | 2,30 |
| Брусніцы, 500 мл | 1,70 | 1,50 |
| Вінаград, 1 кг | 3,90 | 3,50 |
| Грушы, 1 кг | 5,40 | 1,80 |
| Дыня, 1 кг | 1,50 | 1,00 |
| Кавун, 1 кг | 0,59 | 0,59 |
| Персік, 1 кг | 3,30 | 3,50 |
| Слівы, 1 кг | – | 2,30 |
| Чарнасліў, 1 кг | 2,50 | 2,30 |
| Яблыкі, 1 кг | 1,50 | 1,30 |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | 1,50 |
| Масла, 1 кг | 15,00 | 15,00 |
| Сала, 1 кг | 12,50 | 12,50 |
| Сыр, 1 кг | 12,00 | 13,00 |
| Тварог, 1 кг | 7,00 | 7,50 |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | 3,00 |

## Мужчын затрымалі за распіванне алкаголю. Адзін з іх раней днём скраў тэлефон

МАЛАДЗЕЧНА

У Маладзечанскі РАУС звярнулася 57-гадовая грамадзянка, якая паведаміла, што невядомы скраў мабільны тэлефон, які яна забыла на вуліцы.

Аператыўнікі высветлілі, што жанчына забыла на лаўцы тэлефон «Honor», але яго ўжо не было на тым месцы, на якое яна ўказала.

У поле зроку праваахоўнікаў трапілі двое мужчын, калі міліцыянеры абследавалі тэрыторыю. За распіванне спіртнога ў грамадскім месцы парушальнікі былі дастаўленыя для разбору ў РАУС. У дачыненні да іх склалі адміністрацыйныя пратаколы па арт. 17.3 КаАП Рэспублікі Беларусь.

Падчас правядзення далейшых мерапрыемстваў супрацоўнікі крымінальнага вышуку ўстанавілі дачыненне аднаго з мужчын да крадзяжу тэлефона.

Падазраваным аказаўся 31-гадовы гараджанін. Фігурант прызнаўся, што, убачыўшы на лаўцы тэлефон, падабраў сродак сувязі і схаваў у хляве на той жа вуліцы. Аднак пасля «візіту» ў міліцыю за распіванне спіртнога зламыснік вырашыў «перастрахавацца» і выкінуў тэлефон. Але такія меры засцярогі не дапамаглі мужчыну. Міліцыянеры знайшлі тэлефон у траве каля гаспабудовы.

**Паводле прэс-службы Маладзечанскага райвыканкама.**

## Знайшлі самагонны апарат і гатовы тавар

МАЛАДЗЕЧНА

У Баярах на прысядзібным участку 52-гадовага мясцовага жыхара праваахоўнікі выявілі самагонны апарат, а дакладней, яго часткі.

Некаторыя з іх, яшчэ нават цёплыя, стаялі і «астывалі» на вуліцы. А халадзільнік і запарнік знаходзіліся ўнутры гаспабудовы. Памяшканне гаспадар выкарыстоўваў для захоўвання прылады і ў якасці самагоннай «лабараторыі».

Уладальнік вытворчага агрэгата прызнаўся, што літаральна за дзве гадзіны да прыезду міліцыянераў выгнаў партыю самагонкі. Апарат разабраў, каб вывезці за межы ўчастка. Але давесці намер да канца не паспеў.

Падчас агляду ў хляве праваахоўнікі выявілі ёмістасць з 20 літрамі самагонкі. Моцны напой і апарат канфіскавалі.

Мужчына растлумачыў, што «натурпрадукт» рабіў выключна для сябе. Раней ён двойчы трапляў у поле зроку супрацоўнікаў міліцыі за самагонаварэнне. Ёсць у яго біяграфіі і судзімасць за маёмаснае злачынства.

**Паводле прэс-службы Маладзечанскага райвыканкама.**




Фота wikipedia.org

На возеры Свір.

# У возеры Свір мясцовыя жыхары знайшлі тапельца

МЯДЗЕЛ

**29 жніўня жыхары гарадскога пасёлка Свір на Мядзельшчыне паведамілі ў міліцыю пра тое, што знайшлі тапельца ў возеры.**

На месца прыехалі выратавальнікі і міліцыянеры.

**Як распавялі ў Мядзельскай выратавальнай станцыі, тапелец – 78-гадовы жыхар Жодзіна.**

У гэтай мясцовасці ён меў лецішча.

Мясцовыя жыхары 29 жніўня прыйшлі на возера адпачываць і ўбачылі тапельца з берага.

Па словах выратавальнікаў, хутчэй за ўсё, мужчына патануў раней, чым 29 жніўня.

**Аднак дакладную дату і прычыну ўстановіць экспертыза.**

**Аксана ЯРАШОНАК.**

● УВАГА! ВЫШУК

## Шукаюць мужчыну, які сышоў з дому больш за тыдзень таму

МАЛАДЗНЧНА



Маладзечанскі РАУС шукае 32-гадовага **Мікалая Грышкевіча**.

У аператыўна-дзяжурную частку Маладзечанскага РАУС паступіла заява ад 57-гадовай жанчыны. Яна паведаміла, што яе 32-гадовы сын 19 жніўня прыблізна ў 6 гадзіны раніцы пайшоў з дому і не вярнуўся. 10 дзён маладзечанец не выходзіць на сувязь, яго мабільны тэлефон недаступны. Да цяперашняга часу месцазнаходжанне мужчыны невядомае.

Супрацоўнікі крымінальнага вышуку ўстанавілі, што пасля таго, як ён сышоў з дому, гасцяваў у знаёмых, дзе прыпыніцелі распівалі спіртныя напоі. Па словах сваякоў, раней Грышкевіч сыходзіў на працяглы час.

**Прыкметы:** на выгляд 32 гады, рост 175-180 см, сярэдняга целаскладу, твар смуглы, вочы карыя, валасы прамыя, цёмна-русыя, памер абутку 43-44.

**Асаблівая прыкмета:** адсутнічае фаланга на сярэднім пальцы меркавана правай рукі.

На момант знікнення мужчына быў апрануты ў светла-сінія джынсы і светлую, як мяркуецца, белую кофту.

Маладзечанскі РАУС пераканаўча просіць грамадзян, якія валодаюць якой-небудзь інфармацыяй пра зніклага, паведаміць у раённы аддзел па адрасе: г. Маладзечна, вул. Галіцкага, 23 альбо па тэлефонах: **8 (0176) 74-96-83, 8 (0176) 77-16-56, 8 (029) 546-40-44, 8 (029) 555-49-71, 102.**

**Настасся УТКІНА.**

## 17-гадовага хлопца падазраюць у крадзяжы ровараў

АСТРАВЕЦ

На Астравеччыне работнікі крымінальнага вышуку затрымалі серыйнага злодзея ровараў.

На сёння ўстанавілі тры факты крадзяжоў. Цяпер правяраюць, ці датычны малады чалавек да іншых падобных здарэнняў.

Ва ўсіх устаноўленых выпадках 17-гадовы хлопец бесперашкодна браў пакінутыя гаспадарамі ў пад'ездах шматкватэрных жылых дамоў ровары і ўжо на іх самастойна ехаў да месца жыхарства – у вёску Непадалёк.

У гутарцы з аператыўнікамі хлопец паведаміў, што ровары краў для сябе, аб продажы не думаў.

Праваахоўнікі таксама ўставілі змоўшчыка падазраванага. Іх дзеянням даецца прававая ацэнка. Распачалі крымінальную справу.

**Паводле УУС Гродзенскага аблвыканкама.**

## Астраўчан аштрафавалі за вырошчванне маку

АСТРАВЕЦ

17 жыхароў Астравецкага раёна сёлета заплацілі штраф за тое, што вырошчвалі наркатычныя культуры.

Старшы оперупаўнаважаны групы па наркакантролі і супрацьдзеянні гандлю людзьмі Астравецкага РАУС **Аляксей Доўкша** кажа, што ў Астравецкім раёне праблема наркотыкаў стаіць не так востра, як у вялікіх гарадах.

Супрацоўнікі групы наркакантролю і супрацьдзеяння гандлю людзьмі Астравецкага РАУС рэгулярна тлумачаць мясцовым жыхарам, што вырошчваць мак, каноплі і іншыя культуры, з якіх робяць наркотыкі, катэгарычна забаронена. Тым не менш, кожны год міліцыянеры выяўляюць людзей, на агародах якіх красуюцца гэтыя самыя расліны.

Часцей за ўсё парушальнікамі аказваюцца пенсіянеры.

Калі ж супрацоўнікі пачынаюць тлумачыць, што з маку выробляюць наркатычны сродак – опіум, – бабулі робяць вялікія вочы, апраўдваючыся, што мак ім патрэбны для пірагоў і булачак і яны чуць не хочуць ні пра якія наркотыкі.

За вырошчванне наркаўтрымальных раслін без мэты збыту прадугледжаны штраф да 20 базавых велічынь (510 рублёў).

Калі ж забароненыя расліны вырошчваюцца для збыту – надыходзіць крымінальная адказнасць у выглядзе абмежавання або пазбаўлення волі да трох гадоў. Калі правапарушэнне здзяйсняецца паўторна – тэрмін пазбаўлення волі павялічваецца да сямі гадоў. Калі злачынства здзейсненае арганізаванай групай асоб – са свабодай прыйдзецца развітацца на тэрмін да пятнаццаці гадоў, магчыма, пазбавіцца і маёмасці.

**Настасся УТКІНА.**

## 14-гадовы скутарыст уцякаў ад ДАІ

ВІЛЕЙКА

Скутар падлетак узяў без дазволу бацькоў.

Работнікі ДАІ заўважылі парушальніка ў вёсцы Камары, што ў Асіпавіцкім сельсавеце. ДАІ далі хлопцу сігнал спыніцца, але той праігнараваў яго.

Інспектары ДАІ пачалі пагоню. Дагналі непаўналетняга кіроўцу ля вёскі Гасцілава. Падлетак – жыхар вёскі Камары, вучыцца ў школе, распавялі ў ДАІ Вілейкі.

Адказваць за ўчынак падлетка будуць бацькі, бо хлопцу няма 16.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

● БЕЛАРУСЬ – ГЕРМАНІЯ



Фота забяспечанае Мінскім міжнародным адукацыйным цэнтрам імя Ёханэса Раў.

Прадстаўнікі нямецкай амбасады, інстытута Гётэ, IBB-цэнтра і Мінаблвыканкама садзяць дрэва гінкга білоба.

# Бясплатныя майстар-класы і торт вагой 25 кілаграмаў

## Карэспандэнт «Рэгіянальнай газеты» паўдзельнічала ў 25-годдзі адукацыйнага цэнтра IBB

**1 верасня наведнікі Мінскага міжнароднага адукацыйнага цэнтра імя Ёханэса Раў са здзіўленнем зазіралі ў канферэнц-залы. У адной рабілі штучнае дыханне пластыкаваму манекену. У другой група людзей кідалася адзін у аднаго клубком нітак…**

### Бясплатна вучылі 12 гадзін

У традыцыйны Дзень ведаў Мінскі міжнародны адукацыйны цэнтр зладзіў першы гарадскі сацыяльны фестываль. Майстр-класы, лекцыі, дыскусіі, гульні, прэзентацыі, майстэрні ў Мінску на Праўды, 11 ладзілі ад дзесяці раніцы да дзесяці вечара.

**При гэтым усё было бясплатна. Так супрацоўнікі ўстановы адзначылі сваё 25-годдзе.**

У розных канферэнц-залах цэнтра ладзілі майстар-класы па першай дапамозе сталым людзям, праектнай дзейнасці, журналістыцы і нефармальнай адукацыі; шылі экаторбы і гатавалі нямецкія стравы; разважалі пра будучыню беларускай літаратуры і лёс Вайсковых могілкаў, правяралі веданне нямецкай мовы, прэзентавалі тэатральныя пастаноўкі і канцэрты.

### Высвятлялі, чаму журналісты мала пішуць пра грамадскія арганізацыі

Дзіўная група з клубком нітак – удзельнікі майстар-класа медыятрэнера **Марыны Загорскай**. Журналісты і прадстаўнікі недзяржаўных грамадскіх арганізацый гутарылі пра тое, чым могуць быць карысныя адзін аднаму.

А клубок нітак – гэта клубок праблем. Спачатку ўдзельнікі называлі праблемы, якія перашкаджаюць супрацоўніцтву, намотваючы нітку на палец і перакідаючы клубок адзін аднаму. А пасля прапаноўвалі рашэнні і ў гэты час звівалі ніткі ў клубок. Такую методыку ўпадабалі многія ўдзельнікі. Адзначылі, што яе можна выкарыстоўваць на многіх трэнінгах, дыскусіях і нават на ўроках у школе.

Сярод праблем назвалі слабыя кантакты, недасведчанасць журналістаў у вузкіх тэмах, жаданне медыя манетызаваць публікацыі, перасцярога прадстаўнікоў грамадскіх арганізацый супрацоўнічаць з недзяржаўнымі СМІ, шэрыя і аднастайныя прэс-рэлізы.

### Трывожны лёс Вайсковых могілкаў

Валанцёр **Павел Кавалёў** падзяліўся доследам пра тое, як неабыякавыя людзі адстойваюць помнікі на Вайсковых могілках. Большасць з іх, у многім унікальных, улады планавалі знесці і замяніць аднолькавымі бетоннымі надгалоўнікамі. Некаторыя пахаванні сапраўды не пазбегнулі гэтага лёсу. Некаторыя ўдалося ўратаваць.

– Я працую экскурсаводам, – распавядаў Павел. – І вельмі крыўдна, калі мушу казаць удзельнікам экскурсіі пра тое, што тут некалі было, а цяпер няма. Не хацелася б, каб такі лёс напаткаў адзін са старэйшых мінскіх некропаляў – Вайсковыя могілкі.

### Афіцыйныя прывітанні і пачастунак у 25 кілаграмаў

Падчас афіцыйнага адкрыцця фестывалю супрацоўнікаў IBB-цэнтра віталі яго нямецкі дырэктар з Дормунда **Астрыд Зам**, Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Германіі ў Беларусі **Манфрэд Хутэрэр**, дырэктар інстытута Гётэ ў Мінску **Якаб Рачак**.

Як распавёў падчас адкрыцця старшыня **Віктар Балакіраў**, 28 год таму нямецкі ўрад выдзеліў грошы для будаўніцтва ў Мінску адукацыйнага цэнтра. А з'явіўся ён тут праз тры гады.

**– IBB-цэнтр стаў пляцоўкай для канструктыўнага дыялогу паміж нашымі краінамі, – адзначыў у сваім віншаванні пасол.**

Побач з будынкам адукацыйнага цэнтра пасадзілі дрэва гінкга білоба – падарунак інстытута Гётэ.

А яшчэ падчас фестывалю гасцей пачаставалі адмысловым прыгатаваным тортам. Хапіла ўсім. Бо вага ласунку была 25 кілаграмаў.



Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

# Актывісты зладзілі пірацкую вечарыну ў гонар Дня ведаў

МАЛАДЗЕЧНА

**Актыўныя жыхары двара па вуліцы Скарыны 2 верасня зладзілі свята, прысвечанае пачатку навучальнага года.**

Арганізавалі свята **Ірына Тархан** і **Алена Зайцава**. Іншыя суседзі дапамагалі ўпрыгожваць пляцоўку.

**Вольга Малько** прадставіла дог-шоу. Яе гадаванец Ірма хоць і не мае пароды, але выконвае розныя трукі, напрыклад, ловіць фрысбі. Сабака мае дыплом па агульным курсе дрэсіроўкі, нядаўна навучыўся працаваць носам. Дрэсіруе Ірму гаспадыня.

Вольга расказала дзецям, як правільна знаёміцца з сабакамі, узаемадзейнічаць з імі і сябраваць.

Аніматар з клуба «Задорынка» пірат Селядзец праводзіла для дзяцей конкурсы. А галоўнай прыгодай вечарыны стаў пошук скарбу.

**Удзельнікі па слядах знаходзілі падказкі. І ў выніку знайшлі скарб – салодкія гасцінцы. З іх пасля зрабілі салодкі стол для ўсіх удзельнікаў.**

На свята завітала каля сарака дзяцей, разам з дарослымі ўдзельнікаў было каля ста чалавек.

Зоя ХРУЦКАЯ.



Фота Валянціны ТАРХАН.

Дог-шоу.



Удзельнікі свята ў вобразах.

# Дзённік мамы трэцякласніцы: за лета вывучылі табліцу множання. Амаль



МАЛАДЗЕЧНА

**Хутка тыдзень, як Варвара стала трэцякласніцай. А гэта значыць, традыцыйная рубрыка пасля летніх канікулаў вяртаецца на старонкі «Рэгіянальнай газеты».**

### Купала, тэлебачанне і табліца множання

Шчыра прызнаюся, што летам мы больш адпачывалі. Вось такая я няправільная мама: лічу, што канікулы павінны быць канікуламі. А гэта значыць – сонца, рэчка, вёска і, калі пашанцуе, мора.

Таму адзінае, што мы рабілі па школьнай праграме, крыху чыталі кніжкі ў сваё задавальненне. А калі каляндар пачаў звяртаць на сябе ўвагу 20-мі чысламі жніўня, Варвара запанікавала: табліца множання нявывучаная! Прыйшлося ў апошнія дні лета праводзіць інтэнсіў-курс. Большменш здолелі вывучыць да сямі.

Другога верасня Вара вельмі баялася, што першы ўрок, які сёлета праходзіў пад дэвізам-вершам Купалы «Маладая Беларусь», абавязкова пачнецца з табліцы множання.

Прыйшлося супакоіць, што Янку Купалу і табліцу множання ў адным уроку сумясціць цяжкавата. Таму няма чаго баяцца. Тым больш, 2 верасня ў школу прыязджаў старшыня Мінаблвыканкама. Усе былі занятыя падрыхтоўкай да сустрэчы. Якая там табліца множання?

А яшчэ ў школу прыязджала тэлебачанне. І нават заходзілі ў наш 3 «Б». Праўда, у сюжэце прамільгнулі толькі чатыры Варыны аднакласнікі за партамі, а яе не паказалі. «От, толькі дарма сядзела і не варушылася, – узрушалася пасля трэцякласніца.

### Пачалася англійская мова

Ад гэтага навучальнага года Вара пайшла ў другую змену. Пакуль такі расклад ёй падабаецца. Мусіла нарэшце навучыцца зачыняць сама дзверы на ключ. А як па-іншаму, калі часам прыйдзецца сыходзіць з дому ў школу без бацькоў?

Па-ранейшаму плануе іграць на дудцы і займацца танцамі. Праўда, дзеля гэтага ці не кожны дзень трэба будзе ісці ў школу раней, але яна гатовая.

У школу набылі новую форменную сукенку. З сарафанчыка, што куплялі да першага класа, нарэшце вырасла. Цяпер ва ўсіх вучняў-пачаткоўцаў ёсць аднолькавы аксесуар – барвовы гальштук з эмблемай школы.

Мамы, канешне, хвалююцца, што, як пачнецца фізкультура, будуць гэтыя гальштукі валяцца па школьных калідорах. Але ж спадзяёмся, што ў трэцім класе дзеткі нашы станучь больш адказнымі і акуратнымі.

Ад трэцяга класа пачалася англійская мова. Клас падзялілі на тры групы, і Вару, да яе вялікага расчаравання, аддзялілі ад лепшай сяброўкі. На першым уроку замежнай мовы вучыліся, як правільна прадставіцца і спытаць імя ў суразмоўцы.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота забяспечанае аўтарам.**



Варвара на шляху ў школу.



Выхаванцы дзіцячага прытулку.

# Разам сабралі дзяцей у школу

СМАРГОНЬ

**Аднойчы ў хлопчыка з прытулку спыталі: «Які твой любімы прадмет у школе?«. Ён адказаў: «Пенал ад Беларускага дзіцячага фонду».**

І хоць сутнасць пытання была ў іншым, заміламоўвае адказ. З яго вынікае, наколькі важныя новыя канцылярскія тавары ў жыцці школьніка, асабліва першакласніка.

Сёлета ў прытулку Смаргонскага сацыяльна-педагагічнага цэнтра знаходзяцца два першакласнікі.

Дырэктар Смаргонскага раённага аддзялення грамадскага аб'яднання «Беларускі дзіцячы фонд» **Наталля Лабейка** разам з супрацоўнікамі Смаргонскага сацыяльна-педагагічнага цэнтра выбіралі ў адной з мясцовых крам для дзяцей-сірот і дзяцей са шматдзетных, малазабяспечаных і няпоўных сямей сшыткі і альбомы для малявання, каляровыя алоўкі, мядовую акварэль, пеналы, ручкі.

Перад 1 верасня 47 такіх падарункаў на суму больш за 1500 рублёў падарылі дзецям.

Школьнікі з педагогам з вучэбна-педагагічнага комплексу «Залескі яслі-сад–сярэдняя школа» таксама завіталі ў прытулак. Яны падарылі выхаванцам сучасныя танцы і захапляльныя гульні «Мора хвалюецца», «Ручаёк», «Паравозік» і іншыя.

А яшчэ госці прынеслі ў падарунак канцылярскія тавары, якія спатрэбяцца як дашкольнікам, так і першакласнікам.

Упраўленне адукацыі Смаргонскага райвыканкама забяспечыла дзяцей прытулку неабходным адзеннем, школьнымі касцюмамі. Прадстаўнікі Смаргонскай пагранічнай групы падарылі новы школьны абутак.

А звычайныя жыхары Смаргоні падарылі дзецям букеты для ўрачыстай лінейкі.

Дзякуючы неабыякавым людзям і смаргонскім арганізацыям выхаванцы сацыяльна-педагагічнага прытулку сёлета пайшлі ў школу, маючы ўсё неабходнае для вучобы.



З памежнікамі, якія прынеслі падарункі да школы

**Ларыса ТАТАРЫНАВА,**
**дырэктар Смаргонскага сацыяльна-педагагічнага цэнтра.**
**Фота забяспечанае аўтарам.**

# Першы ўрок у залескай школе правёў пісьменнік

ВІЛЕЙКА

**На ўрачыстай лінейцы ў Залескім навучальна-педагагічным комплексе дзіцячы сад–сярэдняя школа ў пасёлку Партызанскі пабываў зямляк, гісторык і пісьменнік Аляксандр Плавінскі.**

Ён павіншаваў вучняў з пачаткам навучальнага года, наведаў школу, бібліятэку. Зацікавіў госця школьны музей «Пасёлак Партызанскі і яго людзі» – яшчэ адна гістарычная старонка Вілейшчыны.

На сустрэчы з вучнямі падчас першага ўрока госць распавёў пра сябе, свае даследаванні і творчасць. Аляксандр Стэфанавіч нарадзіўся ў вёсцы Нясцёркі Вілейскага раёна ў сям'і сельскіх настаўнікаў. З залатым медалём скончыў Латыгальскую СШ, паступіў на хімфак БДУ.

Пасля заканчэння прысвяціў сабе навуцы. Але ў 1992 годзе рэзка мяняе сваё жыццё і пачынае працаваць у Ваеннай акадэміі. З цягам часу захапіўся гісторыяй, асабліва краязнаўствам. Цікавасць да яго – ад бацькі, Стэфана Баляслававіча, настаўніка гісторыі.

З'явілася жаданне адшукаць свае карані. Шматразова давялося ездзіць па архівах Мінска, Маладзечна, Вілейкі і нават пабываць у Львове.

Перад тады яшчэ маладым чалавекам часта паўстае пытанне: для чаго мы жывём, дзе нашы карані, што нас чакае ў будучыні?

Даследаванні Аляксандра Стэфанавіча склалі кнігу «500 лет роду Плавинских». Пасля нарадзілася ідэя стварыць летапіс роднага краю. Выйшла кніга «Латыгольская летопись».

Цікавасць да Вілейшчыны паглыбілася на матэрыяле пра Даўгінава. Твор «Долгиновская летопись» дазваляе зірнуць на падзеі, якія адбыліся ў Беларусі, вачыма мясцовых жыхароў, даведацца, як перамены ў грамадскім жыцці адлюстраваліся ў іх лёсах.

Асаблівую ўвагу аўтар удзяляе лёсу яўрэйскага насельніцтва ў гады Другой сусветнай вайны і гісторыі Даўгінаўскай школы.

Сустрэча стала для ўдзельнікаў сапраўдным урокам гісторыі, урокам памяці.

**Галіна МАЙХЕРСКАЯ,**
**бібліятэкар.**

# самім звярнуцца па дапамогу

## Чаму праблема дамашняга гвалту настолькі значная

На сайце petitions.by ёсць **Калектыўны зварот па пытанні распрацоўкі і прыняцця закона аб супрацьдзеянні дамашняму гвалту ў Беларусі.** На момант здачы публікацыі ў друк яе падпісалі 3850 чалавек. Каб прачытаць зварот, адсканіруйце гэты QR-код або перайдзіце па спасылцы **petitions.by/petitions/1983.**



### Вытрымкі з Калектыўнага звароту:

• Згодна з даследаваннем Інстытута сацыялогіі НАН , кожная другая беларуска хаця б аднойчы цярпела ад таго ці іншага віду гвалту. Па даследаванні Інстытута сацыяльна-палітычных даследаванняў БДУ, кожная трэцяя беларуска была ў сітуацыі дамашняга гвалту.

• Штогод на лінію 102 паступае каля 150 тысяч званкоў па прычыне сямейна-бытавога скандалу. Кожны год адбываецца дзве тысячы крымінальных злачынстваў у сям'і. Штогод каля 50 тысяч агрэсараў прыцягваюць да адміністрацыйнай адказнасці. Многія пацярпелыя ў сітуацыях дамашняга гвалту застаюцца без патрэбнай абароны.

• За шэсць гадоў працы на Агульнанацыянальную лінію для пацярпелых ад дамашняга гвалту звярнулася 11500 чалавек. Сярод іх 94% – жанчыны.

### Чым можа дапамагчы закон

Заканадаўства можа пакараць агрэсара, калі трагедыя ўжо адбылася. Але важна папярэджваць цяжкія наступствы дамашняга гвалту. Пацярпелыя баяцца звярнуцца па дапамогу, таму што штраф, які дадуць агрэсару, ляжа на сямейны бюджэт. А таксама баяцца, што з сям'і забяруць дзяцей.

Сусветная практыка паказала, што пасля прыняцця закона аб супрацьдзеянні дамашняму гвалту выпадкі ўнутры сямей скарачаюцца ад 20 да 40% .

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

BELNAVINY

# Маладзечна – сталіца гарадкоў

## Трэнер Аляксандр Кулак расказаў, чаму гэты спорт важна захаваць

**Карэспандэнт «Рэгіянальнай газеты» наведалася на трэніроўку па гарадошным спорце да Аляксандра Кулака. Трэнер па гарадках распавёў, чаму Маладзечна – сталіца гэтага віду ў Беларусі.**



Гарадошнік Даніла Бобрык.

### Гарадкі з гістарычным мінулым

У мінулым жніўні гарадошны спорт адзначыў 95-годдзе. Усё пачалося ў 1923 годзе, калі маскоўскі метадыст распрацаваў першыя правілы. А на першай Усебеларускай спартакіядзе ў 1945 годзе было 12 відаў спорту, і гарадкі ўваходзілі ў іх лік.

У 1949 годзе ў Навабеліцы прайшоў першы камандны чэмпіянат БССР. Маладзечанскія спартсмены там таксама ўдзельнічалі. З таго часу маладзечанцы пастаянна гулялі ў гарадкі на саюзных чэмпіянатах і міжнародных спаборніцтвах. У Савецкім Саюзе ні адзін гарадошнік з Маладзечна не падняўся вышэй за чацвертае месца на чэмпіянатах Еўропы. У 1980-я маладзечанскія спартсмены ўваходзілі ў склад зборнай БССР, якая станавілася чэмпіёнам Савецкага Саюза.

### Адзінцоў – самы знакаміты гарадошнік з Маладзечна

Калісьці гарадошная пляцоўка была на гарадскім стадыёне. Яна размяшчалася бліжэй да басейна. Аляксандр Кулак распавядае, што той, хто пачынаў гуляць у 1950-я, расказвалі яму гісторыю пра нацягнутыя адносіны паміж пацыентамі бальніцы і спартсменамі. Пацыенты былі абураныя, што гульцы гучна білі бітамі, тым самым перашкаджалі хворым.

Тыя ж 1950-я запомніліся не толькі супрацьстаяннем гарадошнікаў і пацыентаў, але і выступленнямі Сямёна Адзінцова. У 1953 годзе ён стаў першым чэмпіёнам Беларусі з Маладзечна сярод юнакоў. У наступным годзе Адзінцоў стаў чэмпіёнам сярод дарослых. Яшчэ праз 17 гадоў, у 1971-м, зноў выйграў тытул. У 1988 годзе Адзінцоў у трэці раз узяў першае месца на чэмпіянаце Беларусі.

– Ён гуляў заўсёды на цэнтральным стадыёне. Яго ўсе памятаюць. Сямён таксама быў адным з ініцыятараў будаўніцтва гарадошнага стадыёна. А вось з лічбай 17 у яго цікавая гісторыя – кожныя 17 год становіцца чэмпіёнам! – успамінае Кулак.

### Як Маладзечна стала сталіцай гарадошнага спорту

У 1993 годзе адбылася падзея, якая пацвярджае, што Маладзечна – сталіца гарадкоў. Пасля развалу Савецкага Саюза прадстаўнікі федэрацыі гарадошнага спорту СССР сказалі, што яе больш не існуе, яна самаліквідуецца. Кулак успамінае, што ўсе замкнуліся ў сваіх дзяржавах, не праводзілі чэмпіянатаў, турніраў, а гуляць у Беларусі хацелі.

У тым жа годзе ў Маладзечне яны правялі адкрыты рэспубліканскі турнір. У перыяд гэтых спаборніцтваў заснавалі Міжнародную федэрацыю гарадошнага спорту. На наступны год зладзілі першы чэмпіянат Еўропы, таксама ў Маладзечне. У 1996 годзе маладзечанскі гарадошнік **Аляксандр Яршэвіч** устанавіў абсалютны рэкорд і стаў чэмпіёнам Еўропы ў асабовым першынстве.

У 2000-я ў гарадкі актыўна пачалі гуляць жанчыны. Усё пачалося з Германіі, калі там правялі чэмпіянат свету. Трэці чэмпіянат у 2006 годзе хацелі зрабіць у Маладзечне, але вырашылі зладзіць у Германіі, каб улада ўбачыла, што ў гарадкі гуляюць не толькі на постсавецкай прасторы. Немцы сказалі, што чэмпіянат будуць праводзіць толькі тады, калі там будуць жанчыны. Раней жанчыны таксама гулялі, але больш эпізадычна.

А яшчэ ў Маладзечне кожны красавік праходзіць «Чарнобыльскі турнір» у памяць ахвяраў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС.

### «Гарадошную пляцоўку трэба мадэрнізаваць»

У Маладзечне гарадошную пляцоўку пабудавалі ў 1975 годзе. Трэнер распавядае, што ўсё было пераважна зроблена на стадыёне дзякуючы яго вучням. На яго думку, мадэрнізацыя стадыёна была б лепшым рашэннем, чым перанос. Пра яго пачалі гаварыць пасля візіту начальніка аддзела архітэктуры і будаўніцтва Маладзечанскага райвыканкама **Святланы Хрусталёвай** на стадыён.

– Яна прыходзіла і глядзела нашы пляцоўкі. Сказала, што яны не ўпісваюцца ў архітэктурны ансамбль Маладзечна. Маўляў, трэба пераносіць, – распавядае Аляксандр Кулак.



Трэнер Аляксандр Кулак.




Малюнкі дзяцей у трэнерскім пакоі.

Трэнер узгадвае, што арганізатары гарадошных спаборніцтваў у Маладзечне сутыкаюцца з праблемай, калі прыязджаюць спартсмены з іншых краін. Кажа, што санвузел у іх – вясковы. Кулак успамінае, калі на турнір у Маладзечна прыехалі фіны.

– Убачылі, трымаліся да гасцініцы. Для іх гэта было непрыемна. Можна ж паставіць біяпрыбіральні.

### Шмат дзяцей, з якімі займаецца Кулак, з няпоўных сямей

Сярэдняя школа №2 – гэта базавая школа для секцыі гарадошнікаў. Кулак сам ходзіць у школы, каб запрашаць дзяцей на трэніроўкі. Школа гэта захоўвае. Дзяцей бяруць з 2-4 класаў, прыходзяць займацца часам і старэйшыя хлопцы і дзяўчаты. У гарадкі можна гуляць у любым узросце, Аляксандр Кулак лічыць, што ніколі не позна.

– Гарадкі – гэта 90% псіхалогіі. Ты можаш выдатна гуляць на трэніроўках, а калі выходзіш адзін на адзін з фігурай або з супернікам на спаборніцтвах, то ў цябе пачынаюць і ногі дрыжаць, і хваляванне з'яўляецца.

Пакінуць дзіця ў гарадошным спорце цяжка, але магчыма. Кулак прызнаецца, што для гэтага трэба прымяняць свае трэнерскія тэхнікі: арганізоўваць спаборніцтвы, пастаянна займацца з дзецьмі. А цукеркі пасля спаборніцтваў сталі адной з галоўных фішак трэнера.

Аляксандр распавёў пра ідэю, якую даўно выношвае. Шмат дзяцей, з якімі ён займаецца, жывуць у няпоўных сем'ях. Ён хоча зрабіць турнір, у якім будуць удзельнічаць дзеці разам з мамамі. Кажа, гэта дапаможа з'яднаць і дзяцей, і мам, якія ў адзіночку выхоўваюць дзяцей.

### Гарадкі – не алімпійскі від спорту

Па словах Кулака, цяпер Міністэрства спорту ставіць задачу: заваёўваць алімпійскія медалі і скарачаць віды спорту, якія не прыносяць медалі.

– Мы не можам адкрыць аддзялення, таму што ёсць такія ўказанні. Нават не ўсе алімпійскія віды маюць фінансаванне. Развіваюць толькі тыя віды спорту, якія прынясуць узнагароды і перамогі, – абураецца трэнер.

Але гарадошную секцыю ў Маладзечне адстойваюць прафсаюзы. На нарадах пастаянна абараняюць ад закрыцця, бо ў маладзечанцаў ёсць прызёры і чэмпіёны першынства Еўропы і свету. Сярод не алімпійскіх відаў спорту аддзяленне гарадкоў знаходзіцца ў прызёрах.

– Шмат каму мы як костка ў горле. Некаторыя функцыянеры лічаць, што гарадкі трэба прыбраць, што яны непатрэбныя, – дзеліцца Кулак.

Аляксандр успамінае, што пасля распаду Саюза, беларуская федэрацыя гарадошнага спорту першай падрыхтавала дакументы для атрымання пасведчання аб прызнанні гэтага віду спорту.



Тэкст і фота:
Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06



# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
1. Жаласны енк, выкліканы болем або вялікім горам; выражэнне пакуты, адчаю.
5. Спачатку старажытныя грэкі называлі гэтым словам маладую казу, і толькі пасля нейкага монстра.
6. Патаўшчэнне скуры ці пухір з вадкасцю на руках або на нагах ад працяглага трэння.
7. Эканамісты лічаць, што гэтае хобі дазваляе зберагчы грошы ад інфляцыі.
8. Рэлігійнае перакананне беларускага мысліцеля Казіміра Ляшчынскага.
9. Слодыч для добрай крыві.
10. Горад Беларусі з насельніцтвам больш за 340 тысяч чалавек.
12. Поле для гэтай гульні размешчанае на мяжы Швецыі і Фінляндыі.
13. Патомак ад шлюбу людзей розных рас.
16. Ледзь чутная гутарка, пры якой гукі вымаўляюцца без удзелу галасавых звязак.
20. Пагранічны пункт у Астравецкім раёне.
22. Тытан са старажытнагрэчаскай міфалогіі, які стрымлівае плячыма неба, не дае яму абрынуцца.
24. Псіхааналітыкі лічаць, што восенню ў многіх людзей прытупляецца гэта пачуццё.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
2. Рулявое кола, паваротам якога кіруюць суднам, самалётам.
3. Прынятыя за аснову ўзор, мадэль, эталон.
4. Умоўны знак для перадачы паведамлення, распараджэння, каманды.
11. Навука, якая вывучае колькасныя змяненні ў развіцці чалавечага грамадства, народнай гаспадаркі і займаецца апрацоўкай лічбавых паказчыкаў з навуковай і практычнай мэтай.
13. Моцны холад, сцюжа.
14. Вельмі тэрміновая тэлеграма.
15. Праўдзівы, чыстасардэчны, адкрыты.
16. Тонкая баваўняная або шаўковая тканіна.
17. Прыстасаванне для спальвання гаручай вадкасці або газу з пэўнай мэтай.
18. Пасту з гэтай ягады выкарыстоўвалі індзейцы, каб павялічыць тэрмін прыдатнасці сушанага мяса.
19. Высокая тэмпература паветра, нагрэтага сонцам.
21. Група людзей, якія ўчыняюць разбой, злачынствы; банда.
23. Назва гэтай гульні паходзіць з французскай, у перакладзе значыць «шар».
24. Іншая назва Якуціі.

## Адказы на крыжаванку з №35

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 2. Вермут. 4. Суразмоўца. 5. Трактар. 9. Удаў. 10. Вітаўт. 13. Каран. 15. Дэбют. 19. Радзіма. 21. Кадр. 22. Верасень. 23. Беларусы. 24. Семестр. 26. Жнец. 27. Амплітуда. 30. Каракас. 32. Скарпіён.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Прэфектура. 3. Фанатызм. 6. Фавела. 7. Полацк. 8. Лаўка. 11. Дагавор. 12. Быкаў. 14. Тэкстыль. 15. Даміно. 16. Трэска. 17. Шыбеніца. 18. Продаж. 20. Упартасць. 23. Бойка. 25. Бісектрыса. 28. Смаргонь. 29. Плэер. 31. Урывак. 33. Авал. 34. Пас.

## ● ГАРАСКОП на 6-12 ВЕРАСНЯ



**АВЕН**. Цяпер вам уласціва прымаць дурныя рашэнні, але час – пацешная штука, а часам і трохі чароўная: якое-небудзь дурное рашэнне з часам можа ператварыцца ў нешта зусім іншае. На гэтых днях сіні горн будзе вашым сімвалам.



**ЦЯЛЕЦ**. Вам будзе спадарожнічаць поспех. Але памятайце: рашэнні, якія вы прымаеце пасля дзвюх гадзін ночы, – гэта няправільныя рашэнні. Лепш пачакаць да раніцы.



**БЛІЗНЯТЫ**. Дні будуць легендарнымі. Калі вашы сябры прапануюць вам адпачыць і прагуляцца, то абавязкова пагаджайцеся. Часам, нават калі ты ведаеш, чым усё скончыцца, – гэта не значыць, што ты не можаш атрымаць асалоду ад гэтага.



**РАК**. Ніколі не ведаеш загадзя, што сустрэнеш кагосьці вельмі важнага. Не бывае ніякіх папярэджанняў. Ты проста падымаеш вочы і… вось гэты чалавек. Не прапусціце!



**ЛЕЎ**. Любы ваш учынак у жыцці ніколі не стане легендарным, калі побач з вамі не будзе вашых сяброў. Правядзіце гэты дні з сябрамі і блізкімі.



**ДЗЕВА**. Вельмі важны тыдзень для вас. Часам страшна ставіць на сябе. Але калі ты гэтага не зробіш – ніхто не зробіць гэта за вас.



**ШАЛІ**. Ніхто не можа паклясціся быць ідэальным. Застаецца толькі любіць адно аднаго такімі, якія мы ёсць. Таму што каханне – гэта лепшае, што ў нас ёсць. Гэты тыдзень будзе адказны для вашага асабістага жыцця.



**СКАРПІЁН**. Мы заўсёды чакаем знакаў ад Сусвету, але, на самой справе, бачым толькі тое, што хочам бачыць, і тады, калі сапраўды да гэтага гатовыя. Прымайце рашэнні, не чакайце асаблівага моманту.



**СТРАЛЕЦ**. Цяпер вас будуць чакаць цікавыя прапановы па кар'еры. Будучыня сапраўды палохае, але нельга вяртацца ў мінулае проста таму, што там табе ўсё знаёмае.



**КАЗЯРОГ**. Найвялікшыя моманты вашага жыцця не заўсёды з'яўляюцца вынікам вашых дзеянняў. Але часам дзеянні могуць прывесці да такіх момантаў. Не бойцеся рызыкаваць.



**ВАДАЛЕЙ**. Самая вялікая памылка – не зрабіць памылку. Таму што ты так і пражывеш сваё жыццё, не ведаючы, што такое памылка. Цяпер той час, калі вы навучыцеся чаму-небудзь новаму і раней невядомаму. Не бойцеся памыліцца, бо толькі так вы атрымаеце досвед.



**РЫБЫ**. Многія заўсёды ідуць за сваёй марай, але некаторым марам проста не наканавана спраўдзіцца. Часцей за ўсё віной таму недахоп сіл, грашовых сродкаў і банальны страх. Хопіць марыць – дзейнічайце.

**Падрыхтаваў Тэадор МОЗБІН.**

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 3 | | 5 | | 8 |
| 5 | | | | | | 1 | 3 | 7 |
| | 1 | 3 | | | 7 | | 2 | |
| | | 6 | | 7 | 5 | 9 | | |
| 1 | 8 | | | | 2 | | 4 | |
| 7 | | | | | 9 | | 1 | 2 |
| | 4 | | | 9 | | | | |
| | 5 | | 6 | | | | | |
| | | | | | | 2 | 6 | 4 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

# Рэгіянальная газета.

Rh.by

Падпісвайся на «РГ» у Instagram!

RG_RHBY




## Чытайце праз тыдзень:

- **7 верасня ў Маладзечне пройдзе першы форум псіхалагічнай культуры. Як прайшло мерапрыемства і што карыснага з яго ўзялі ўдзельнікі, чытайце ў наступным нумары.**

## 7 верасня, субота

**Вецер:** паўночна-ўсходні, 1-2 м/с




Усход 6.30
Захад 19.50
Даўжыня дня 13.20

Усход 16.34
Захад –
Месяц расце

### ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. ВІЛЕЙКА

Мінімальная тэмпература +0,9°С у 1968 годзе
Максімальная тэмпература +26,3°С у 1955 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 9,5 мм у 1994 годзе

Паводле meteoinfo.by.

## Хавайся ад восеньскай дэпрэсіі з «Рэгіянальнай газетай»!



### Падпісацца на «РГ» можна:

- **праз сайт «Белпошты»**

Рэгіструемся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем «Афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі», выбіраем «Алфавітны». Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Ціснем літару «Р», справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – «Рэгіянальная газета»

- **на пошце**
- **праз паштальёна**
- **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі:**

- на месяц – 4 рублі 50 капеек;
- на тры месяцы – 13 рублёў 50 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі:**

- на месяц – 13 рублёў 50 капеек;
- на тры месяцы – 40 рублёў 50 капеек.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС:** *63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная падпіска).*

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Якая ваша любімая песня пра восень?

**Павел Малашка, дыктар гарадскога стадыёна:**

– З восенню звязвае песня гурта Люмен «Між радкоў», а так даспадобы ДДТ «Што такое восень».



**Марына Касяк, бухгалтар:**

– Адна песня ад гурта ДДТ – «Восень».



**Вольга Грыгарэнка, правізар:**

– «Листья желтые над городом кружатся». Гэта Варум спявае.



**Вікторыя Карчэўская, медсястра «хуткай»:**

– Аляксандр Буйноў – «Падае лісце».



**Ілля Рыпінскі, мантажнік сувязі:**

– Для мяне гэта «3-е верасня» ад Шуфуцінскага.



**Іван Ананіч, індывідуальны прадпрымальнік:**

– Слухаю гурт ДДТ «У апошнюю восень».



**Юры Галушка, рабочы:**

– Падабаецца ДДТ «Восень».



**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**


Рэгіянальная газета. Rh.by

Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 4100 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№36 (1271) 6.08.2019. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №02330/484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 1431. Падпісана ў друк у 9.00 5.09.2019.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**




Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.